*І сэрцам палюбіў я гэты кут — цябе, мой старадаўні родны Слонім.*
*Алег Лойка*

# Слонімскі край



2017, № 10(20). Кастрычнік

# Слонімскі футбол у міжваенны час

Футбольныя традыцыі ў Слоніме маюць багатую і даўнюю гісторыю. На жаль, дагэтуль няма даследавання, у якім яна была б асветленая. Ёсць асобныя публікацыі, прысвечаныя слонімскаму футболу ў пасляваенны час (пасля Другой сусветнай вайны), а даваенны перыяд з'яўляецца суцэльнай "белай плямай". Слонімцаў, якія памятаюць тыя часы, ужо няма сярод нас. Таму збіраць матэрыял давялося па нешматлікіх апублікаваных успамінах, а пераважна па паведамленнях польскай прэсы 1920-1930-х гадоў, па разнастайных польскіх спартыўных даведніках.

На сайце jewishbialystok.pl у каментары фота, змешчанага вышэй, сцвярджаецца, што на здымку пачатку 1930-х гадоў могуць быць футбалісты каманд "Макабі" (Слонім) і "76 палка пяхоты стральцоў слонімскіх". У апошнім выпадку відавочная памылка, паколькі ў нашым горадзе ў міжваенны час дыслакаваўся 79 пяхотны полк слонімскіх стральцоў імя Льва Сапегі. А значыць, бачым гульцоў яго каманды. Што да 76-га лідскага палка пяхоты імя Людвіка Нарбута, дык ён дыслакаваўся ў Гродне, а яго футбольная каманда была адной з найлепшых у Заходняй Беларусі.

*Працяг на ст. 8.*

# Нямецкія бароны кіравалі Слонімшчынай чвэрць стагоддзя

У апошнія дзесяцігоддзі XIX стагоддзя Слонім стаў кропкай прыцягнення шматлікіх "рускіх дваран нямецкага паходжання лютэранскага веравызнання". Многія прыязджалі з Прыбалтыкі, іншыя — з Расіі. У нашым горадзе яны ўладкоўваліся на ўплывовыя пасады, а некаторыя ўвогуле кіравалі Слонімшчынай!

*Чытайце матэрыял на ст. 3-5.*

ХРОНІКА

# У Слоніме зноў абмеркавалі рэстаўрацыю сінагогі



У сярэдзіне кастрычніка Слонім наведала прадстаўнічая замежная дэлегацыя, якая на сустрэчы з кіраўніцтвам райвыканкама абмеркавала рэстаўрацыю сінагогі, помніка архітэктуры сярэдзіны XVII стагоддзя. Напярэдадні яе прыезду вакол будынка ўсталявалі новы драўляны плот. Як піша "Слонімскі веснік", сярод замежнікаў былі кіраўнікі дабрачынных арганізацый, выканаўчы дырэктар фонду яўрэйскай спадчыны Майкл Мэйл. Вядома, што на сённяшні дзень вядуцца праектныя работы. У сінагозе плануецца стварыць музей яўрэйскай культуры, аб'ект, які будзе прыцягваць турыстаў з усяго свету.

# Прэзентацыя новай кнігі Сяргея Чыгрына

19 кастрычніка ў Слонімскім раённым краязнаўчым музеі імя Стаброўскага была прэзентавана новая краязнаўчая кніга Сяргея Чыгрына "Слонімскія гісторыі". Прысутнічала некалькі дзясяткаў слонімцаў, а сярод іх найбольш студэнтаў медкаледжа. Спявачка Таццяна Матафонава-Грыневіч выканала некалькі песень.

# Раскопкі на яўрэйскіх могілках

У кастрычніку на яўрэйскіх могілках па вуліцы Брэсцкай у Слоніме прайшлі археалагічныя раскопкі. Як пісаў "СК" у мінулым нумары, мэтай быў пошук магілаў равінаў Вайнбергаў, а таксама падмурка іх дома. Усё гэта было знойдзена. Таксама на месцы раскопак выявілі некалькі манет (у тым ліку і другой паловы XIX стагоддзя) і чарапіцу, вырабленую ў Альбярціне.

# 80 гадоў таму быў расстраляны слонімскі пісьменнік

У адну ноч 29 кастрычніка 1937 года ў Менску (а ў той час горад называўся менавіта так) у будынку НКВД былі расстраляныя больш за 100 прадстаўнікоў інтэлектуальнай эліты БССР — беларускія і яўрэйскія пісьменнікі, навукоўцы і грамадскія дзеячы. Падобнага не ведае гісторыя ніводнай іншай еўрапейскай краіны. Сярод забітых быў і рэдактар газеты "Літаратура і мастацтва" Хацкель Дунец (1897 — 1937).

Ён быў родам са Слоніма, дзе нарадзіўся ў беднай яўрэйскай сям'і. З 1926 года Хацкель Дунец жыў у Менску. Друкаваць свае літаратурна-краязнаўчыя творы пачаў з 1927 года. Пісаў на ідыш і беларускай мове. Дунец працаваў спачатку намеснікам рэдактара яўрэйскай газеты "Октобэр", а потым рэдактарам газеты "ЛіМ", быў адным з кіраўнікоў яўрэйскай секцыі Саюза пісьменнікаў БССР.

У 1930-1935 гадах Хацкель Дунец працаваў на пасадзе намесніка наркама асветы БССР. Аднак у сярэдзіне 1930-х



гадоў беларускага пісьменніка абвінавацілі ў "трацкізме". Яго выключылі з партыі, знялі з усіх адказных пасадаў. А летам 1936 года Дунца арыштавалі ў Менску па адрасе: вул. Кірава, д. 5/30, кв. 3. Яго асудзілі да 5 гадоў папраўча-працоўных лагероў. Ён быў этапаваны ва Ухта-Пячорскі канцлагер НКВД Комі АССР. У красавіку 1937 года яго этапавалі ў Менск. А 28 кастрычніка 1937-га тройкай НКВД Хацкеля Дунца прыгаварылі да вышэйшай меры пакарання. Яго расстралялі і пахавалі ў Курапатах пад Менскам. Пазней была рэпрэсаваная і жонка Дунца. У студзені 1967 года беларускага пісьменніка рэабілітавалі.

●*Сяргей Чыгрын*

# Нямецкія бароны кіравалі Слонімшчынай чвэрць стагоддзя

У гісторыі Слонімшчыны быў перыяд, калі ў горадзе і ў павеце жылі і працавалі дзясяткі прадстаўнікоў вядомых нямецкіх родаў. Гэта былі рускія дваране нямецкага паходжання. Амаль усе — лютэране. Але ўжо іх дзеці нярэдка станавіліся праваслаўнымі. Таямніцай застаецца, якім чынам гэтым людзям у кароткі адрэзак часу ўдавалася з зайздроснай рэгулярнасцю займаць у Слоніме ўплывовыя пасады.




*Слонім, скрыжаванне цяперашніх вуліц Першамайскай і Савецкай. Здымак пачатку Першай сусветнай вайны. Злева відаць будынак гандлёвых радоў, справа — балкон на былой ратушы (цяперашняй бібліятэцы).*

### 14 гадоў на пасадзе павятовага маршалка

Даволі працяглы перыяд (амаль чвэрць стагоддзя) рускія дваране нямецкага паходжання былі слонімскімі павятовымі маршалкамі ("уездными предводителями дворянства"). У мінулым нумары "СК" мы пісалі пра Хрызастома Татура, які ў сярэдзіне XIX стагоддзя займаў пасаду слонімскага павятовага маршалка.* Гэтая службовая асоба выконвала функцыі кіраўніка павета, тэрыторыя якога ў той час была значна большай за тэрыторыю сённяшняга Слонімскага раёна. Маршалак таксама прадстаўляў інтарэсы мясцовага дваранства. Ён прызначаўся гродзенскім губернатарам і трымаў перад ім справаздачу.

**Ёрш С. Знойдзена магіла Хрызастома Татура // Слонімскі край, 2017, № 9. Верасень. С. 13.*




У 1884-1898 гадах слонімскім павятовым маршалкам быў Канстанцін Іванавіч фон Дрэйлінг. Ён нарадзіўся ў 1829 годзе (па іншых звестках, у 1825-м) у сям'і прадстаўніка вышэйшага чынавенства Расійскай імперыі, удзельніка Барадзінскай бітвы 1812-га, ардзінарца фельдмаршала Кутузава, аўтара ўспамінаў Івана Раманавіча (Ёгана Рэйнгольда) фон Дрэйлінга. Дрэйлінгі былі прадстаўнікамі старажытнага тырольскага дваранскага рода, якія з канца XV ст. жылі ў Рызе і належылі да курляндскага дваранства, з XVIII ст. — да расійскага. Канстанцін вучыўся ў Санкт-Пецярбургскім універсітэце. Меў багаты досвед працы чыноўнікам (на дзяржаўнай службе з 1850 года). За два гады да прыезду ў Слонім стаў сапраўдным стацкім дарадцам. Быў узнагараваны шматлікімі ўзнагародамі — расійскімі, сербскімі, чарнагорскімі, шведскімі. Паводле веравызнання фон Дрэйлінг быў лютэранінам.

Пасля сыходу з пасады слонімскага павятовага маршалка Канстанцін фон Дрэйлінг пражыў толькі два гады, ён памёр 10 траўня 1900 года. Сыны яго, магчыма, сталі афіцэрамі. Вядомы палкоўнік асобнага корпусу жандараў Канстанцін Канстанцінавіч фон Дрэйлінг (1872 — 1922), які пахаваны ў Берліне. Палкоўнік Раман Канстанцінавіч фон Дрэйлінг (1880 — 1945) вядомы, як ваенны псіхолаг. Пасля рэвалюцыі ў Расіі жыў у Югаславіі, загінуў у зняволенні ў СССР. Сыны былі ўжо праваслаўнымі. Цікава, што Іван Раманавіч фон Дрэйлінг — прадзед па маці вядомага расійскага тэлевядучага Мікалая Дараздова.

### Сноб і франт-дэндзі

У 1898 годзе Канстанціна Іванавіча фон Дрэйлінга на пасадзе слонімскага павятовага маршалка змяніў сапраўдны стацкі дарадца Пётр Пятровіч Штэр (6 чэрвеня 1842 — 4 кастрычніка 1909, Масква).

# Нямецкія бароны кіравалі Слонімшчынай чвэрць стагоддзя

*Працяг, пачатак на ст. 3.*

Належаў ён да старажытнага дваранскага роду і відавочна нямецкага паходжання. Штэр быў выпускніком імператарскага Александраўскага ліцэя. На час прызначэння ў Слонім меў ужо значны досвед дзяржаўнай службы. Пасаду павятовага маршалка займаў да 1902 года.



Таццяна Аксакава ў сваіх успамінах падрабязна піша пра сям'ю Штэраў. У Пятра Пятровіча было трое дзяцей — дачка Наталля, якая ўзяла шлюб з князем Васілём Абаленскім, сыны Андрэй і Мікалай. Андрэй Штэр быў рускім марскім афіцэрам, трагічна загінуў у 1907 годзе, пакінуў успаміны пра руска-японскую вайну.

Паводле Аксакавай, Пётр Пятровіч Штэр быў сынам цэнзара Санкт-Пецярбургскага паштамта. Спачатку ён служыў у ведамстве дзяржаўнай маёмасці, а пасля быў прызначаны павятовым маршалкам. Таццяна Аксакава піша, што прызначылі яго ў Кобрынскі павет, дзе ён меў маёнтак. Відаць, яна пераблытала Кобрыншчыну са Слонімшчынай (калі толькі Штэр не паспеў паслужыць і ў Кобрыне).

Ва ўспамінах адзначаецца, што Пётр Штэр "належаў да бюракратычнага пласта пецярбургскага грамадства, які аддаваўся вяселлю", "прэтэндаваў на франта-дэндзі". "Тон яго быў рэзкі і непрыемны, — успамінае Аксакава. — Усё нямоднае, нефешэнебельнае выклікала ў ім пагарду, якую ён не лічыў патрэбным хаваць… Персанажы Оскара Уайльда маглі б, мабыць, спаборнічаць з Пятром Пятровічам у галіне снабізму, але ў Расіі яму канкурэнтаў не было".

Старасць Штэра была незайздроснай — за некалькі гадоў да смерці ён аслеп. Магчыма, праблемы са здароўем і сталі прычынай яго адстаўкі. "Я памятаю яго высокім, надзвычай гнуткім старым з невідушчымі вачыма і старанна расчасанымі бакенбардамі", — піша Таццяна Аксакава. Маёнтак свой у Гродзенскай губерні ў пачатку XX стагоддзя Штэры прадалі, купілі сядзібу ў 80 кіламетрах ад Масквы, куды і пераехалі.*

**Аксакова Т. Семейная хроника. Книга 1. — Париж, 1988. С. 187-190.*

### Заблытаўся ў даўгах і пайшоў у адстаўку

У 1903 годзе слонімскім павятовым маршалкам зноў стаў прадстаўнік рускага дваранства нямецкага паходжання — стацкі дарадца Уладзімір Іванавіч фон Штэйн. Пра яго вядома не шмат. Ён нарадзіўся ў 1852 ці ў 1853 годзе ў сям'і палкоўніка рускай арміі Івана фон Штэйна. Вядомы, як літаратар, публіцыст, навуковец, чыноўнік. Па адных звестках, быў лютэранінам, па іншых — праваслаўным. Жыў у Санкт-Пецярбургу, скончыў Імператарскі універсітэт св. Уладзіміра. У 1876 годзе стаў кандыдатам дзяржаўных навук. Удзельнічаў у вайне з туркамі, меў узнагароды. Уладзімір фон



Штэйн быў на дзяржаўнай службе ў казначэйстве і цэнзурным ведамстве. Жыццёвыя абставіны закінулі яго ў 1878 годзе ў Слонім, дзе калежскі асесар фон Штэйн доўгі час быў міравым пасярэднікам.

Па некаторых звестках, фон Штэйн меў шмат даўгоў і "заблытаўся" ў іх, падарваў сваё здароўе. 28 красавіка 1907 года ён вымушаны быў пайсці ў адстаўку. На той час ён быў сапраўдным стацкім дарадцам. Якраз у тым годзе памерла яго жонка, дачка рускага генерала Алена Уладзіміраўна Заленская. У іх было чацвёра дзяцей.

Дакладная дата смерці Штэйна невядомая. Ён быў яшчэ жывы ў 1910 годзе.

### Апошні павятовы маршалак

З красавіка 1914 года абавязкі слонімскага павятовага маршалка выконваў адстаўны гвардыі палкоўнік Хрыстафор Хрыстафоравіч Бойе-ав-Генэс. Ён нарадзіўся 24 жніўня 1876 года. Належаў да старажытнага дваранскага роду з Багеміі. Яго продкі ў XV стагоддзі перасяліліся ў Шведскае каралеўства, у Фінляндыю, з часам атрымалі баронства.

Бойе-ав-Генэс быў праваслаўным. Пасля заканчэн-


Х. Бойе-Авъ-Геннесъ, есаулъ 4-го Забайкальскаго казач. батал., прикомандированный къ 24-му Вост.-Сиб. стрѣлк. полку. Раненъ подъ Ляояномъ.

ня Паўлаўскай вайсковай вучэльні служыў у 36-м пяхотным Арлоўскім палку, у лейб-гвардыі Сямёнаўскім палку. Удзельнічаў у руска-японскай вайне, быў цяжка паранены, меў узнагароды. Пасля працяглага лячэння яго залічылі ў запас. У 1908-м змог на кароткі час вярнуцца на службу, у гвардзейскі Сямёнаўскі полк. З-за хваробы, якую выклікала раненне, яго звольнілі ў канцы 1908-га. З вясны 1914 года адстаўнога палкоўніка прынялі на службу ў Міністэрства ўнутраных спраў і ён трапіў у Слонім. У нашым горадзе ён жыў на Студэнцкай вуліцы ў доме Войцеха Клімкевіча, бацькі слонімскага краязнаўцы і журналіста Віктара Клімкевіча.

У верасні 1915 года Слонімшчына была акупавана нямецкімі войскамі. Хрыстафор Хрыстафоравіч Бойе-ав-Генэс займаўся эвакуацыяй дзяржаўных устаноў у Расію, займаў розныя пасады. Ён быў апошнім екацярынаслаўскім віцэ-губернатарам (са студзеня 1917-га, цяпер гэта ўкраінскі горад Днепр). У 1918-м у Омску Бойе-ав-Генэса расстралялі бальшавікі за ўдзел у антысавецкім паўстанні.

### Бароны ў акцызным упраўленні

Прадстаўнікі рускага дваранства нямецкага паходжання служылі ў Слоніме не толькі павятовымі маршалкамі, яны займалі і іншыя пасады. Мы ўжо згадвалі, што міравым пасярэднікам быў Уладзімір Іванавіч фон Штэйн, які пасля ачоліў павет. У 1870-1880-я гады ў Слоніме ў акруговым акцызным упраўленні працаваў Роберт Адольфавіч Берэнг, выпускнік Дэрптцкага ўніверсітэта (цяпер горад Тарту ў Эстоніі), лютэранін. У тыя ж гады ляснічым у Слонімскім лясніцтве служыў надворны дарадца Вільгельм Іванавіч фон Гецберг, лютэранін, выхаванец Мітаўскай губернскай гімназіі (цяпер горад Елгава ў Латвіі).

У 1880-1890 гады ў акруговым акцызным упраўленні працавалі лютэране Роберт Густававіч Рэш, Густаў Людвігавіч Крыднер, калежскі асесар Артур Мікалаевіч фон Грунберг, Арыстарх Мікалаевіч фон Грунберг (абодва выхаванцы Мітаўскай гімназіі). З 1897-га там жа працаваў лютэранін Эрнэст Карлавіч Гейнэ. На год раней туды ўладкаваўся Аляксандр Аляксандравіч барон Клодт фон Юргенсбург. Ён належаў да старажытнага рускага дваранскага роду нямецкага паходжання. Продкі барона ў пачатку XVI ст. перасяліліся з Вестфаліі ў Ліфляндыю, а пасля апынуліся ў складзе Расійскай імперыі. Гэты род даў нямала мастакоў, скульптараў, педагогаў, былі і вайскоўцы. Аляксандр Аляксандравіч, відаць, быў унукам генерал-маёра Канстанціна Клодта.


Baron Clodt von Jürgensburg.



У пачатку XX ст. земскім начальнікам у Ружанах у Слонімскім павеце быў барон Віктар Віктаравіч фон Розенберг. Розенбергі — адзін з найстарэйшых дваранскіх радоў Еўропы. У 1906-м на чыгунцы ў Слонімскім павеце памочнікам начальніка 10-га ўчастка працаваў прапаршчык запасу Ота Аўгуставіч Гамбургер. У 1907-м памочнікам начальніка 10-га ўчастка чыгункі быў барон Аляксандр Фёдаравіч Каўльбарс. Яго род мае шведскае паходжанне. У 1909 годзе ў павятовым паліцэйскім упраўленні служыў Яўген Еганавіч Зефельд.

І гэта далёка не поўны спіс. Некаторыя са згаданых асоб маглі памерці ў нашым горадзе і быць пахаванымі на старых лютэранскіх могілках ці на могілках Ружанскіх. Магчыма, дадатак да прозвішча “фон” ды і самі нямецкія прозвішчы на надмагільных помніках пасля Другой сусветнай вайны выклікалі агрэсію мясцовых жыхароў. Ад лютэранскіх могілак амаль нічога не засталося, а на Ружанскіх ёсць магілы са збітымі надпісамі ці шыльдамі.

●***Сяргей Ёрш***

ЗГАДКА

# Пра Леаніда Богдана і шыльду на магіле Стаброўскіх

У мінулым годзе 3 лістапада разам са слонімскім скульптарам Леанідам Богданам, мастаком Яўгенам Івановым, грамадскай актывісткай са Слоніма Леанардай Рэўкоўскай я наведаў могілкі ў вёсцы Орлавічы Слонімскага раёна. Для гэтага была нагода. 2 лістапада — дзень нараджэння заснавальніка Слонімскага краязнаўчага музея, археолага, гісторыка, вайскоўца, калекцыянера, аднаго з самых знакамітых слонімцаў XX стагоддзя — Язэпа (Іосіфа Іосіфавіча) Стаброўскага (1870 — 1968).



*Леанід Богдан, Леанарда Рэўкоўская і Яўген Іваноў на магіле Стаброўскіх у Орлавічах, 2 лістапада 2016 г. Фота Сяргея Чыгрына.*

На могілках у Орлавічах знаходзяцца магілы Стаброўскіх. Ім пастаўлены крыжы з шыльдачкамі. А сабе Язэп Стаброўскі надмагільны помнік з каменя выбіў яшчэ пры жыцці, бо ведаў, што ніхто яму помнік не паставіць. Так і адбылося. У Орлавічах быў маёнтак Язэпа Стаброўскага, а вакол маёнтка яго ўласная зямля — больш за 120 гектараў. 65 гектараў ён бясплатна падараваў жыхарам Орлавіч. А сам маёнтак Стаброўскіх у гады Другой сусветнай вайны спалілі партызаны. У агні згарэлі карціны мастакоў, старая мэбля, каштоўныя гістарычныя дакументы, пісьмы, бібліятэка і ўсё, што сабралі Стаброўскія за шмат дзесяткаў гадоў. У агні згарэў і кабінет Язэпа Язэпавіча… Пра ўсё гэта ішла гутарка ў Орлавічах падчас нашай паездкі. Мы ў той дзень запалілі і паставілі лампадкі, а таксама спланавалі на бліжэйшыя гады добраўпарадкаваць магілы Стаброўскіх і пакласці ім надмагільныя пліты.

Хто мог тады прадбачыць ці ўявіць, што для Леаніда Богдана паездка ў Орлавічы будзе апошняй ў жыцці… Ніхто і ніколі. Там, у Орлавічах, Леанід фатаграфаваў шыльдачкі на крыжах, на якіх на польскай мове былі напісаны імёны, прозвішчы, даты жыцця тых Стаброўскіх, што знайшлі свой апошні спачын на орлаўскім пагосце. Мы прыбралі магілы, запалілі лампадкі, а Леанід, гледзячы на драўляныя крыжы, маўчаў. Ён глыбока аб нечым думаў, а потым сказаў: “Нельга, каб былі такія магілы Стаброўскіх. Іх трэба ўпарадкаваць і паставіць сучасныя помнікі. Я зраблю іх праекты, а пасля будзем усе разам думаць пра помнікі. Ды і дарога сюды павінна быць вартая, дарога да Стаброўскіх”. Мы ўсе пагадзіліся з Леанідам Богданам.

Калі ён вярнуўся ў Слонім, выбіў па-польску на шыльдачцы прозвішчы Стаброўскіх. І гэтую шыльдачку перадаў у Слонімскі краязнаўчы музей імя Я. Стаброўскага.

Сёлета супрацоўнікі музея, калі адзначаўся тыдзень культуры на Слонімшчыне, вырашылі прымацаваць польскамоўную шыльду Леаніда Богдана на вялікім каменным чатырох’ярусным помніку на магіле Стаброўскіх. Не ведаю толькі, ці пасуе гэтая шыльдачка сёння на помніку? Але няхай будзе, як памяць пра Леаніда Богдана і пра тых Стаброўскіх, якія ляжаць пад вялікім каменным помнікам. Магчыма з цягам часу на могілках у Орлавічах з’явіцца сапраўдны надмагільны манумент усім Стаброўскім па-беларуску, якія заслугоўваюць светлай памяці слонімцаў. Дарэчы, гэты каменны помнік Язэп Стаброўскі вырабляў разам з мясцовым жыхаром Пілiпам Курыловічам. Часалі яго амаль тры гады. Пра гэта мне гадоў дваццаць пяць таму казала жонка Піліпа Курыловіча Кузьмінічна (так яе ўсе называлі).

●*Сяргей Чыгрын*



*Леанід Богдан фатаграфуе крыжы, 2 лістапада 2016 г.*




*Крыж Язэпу Стаброўскаму*




*Шыльда Леаніда Богдана, прысвечаная Стаброўскім, на каменным помніку.*



●*Фота Сяргея Чыгрына*

# Слонімскі футбол у міжваенны час (1920-1930-я гады)

*Працяг, пачатак на ст. 1.*

Звестак пра тое, што ў Слоніме гулялі ў футбол яшчэ да пачатку Першай сусветнай вайны, пры расійскай царскай уладзе, няма. Верагодна, не было і прыдатнага для гэтага футбольнага поля (падобная праблема існавала і ў значна большых гарадах). Падчас нямецкай акупацыі 1915-1919 гадоў у горадзе праводзілася шмат спартыўных спаборніцтваў. Удзельнічалі ў іх нямецкія вайскоўцы з размешчаных у Слоніме частак. Яны бегалі на розныя дыстанцыі, спаборнічалі ў плаванні. А вось дадзеных пра тое, што былі футбольныя матчы, пакуль знайсці не ўдалося. У суседніх Баранавічах немцы ў футбол гулялі, пра што паведамляла іх прэса. Ёсць фотаздымкі, малюнкі, якія гэта адлюстроўваюць.




***Нямецкія салдаты гуляюць у футбол. Карыкатура, апублікаваная ў баранавіцкай газеце ў 1917 г.***

### Год 1923

Пакуль немагчыма сказаць, калі ж адбыўся ў Слоніме першы футбольны матч. Найхутчэй падзея гэтая прыпадае на пачатак 1920-х гадоў, калі Слонімшчына была пад польскай уладай. Горад быў часткова разбураны ў выніку войнаў (асабліва моцна пацярпела Замосце), аднаўляўся ён павольна. Як нам падаецца, у той час у футбол першымі пачалі гуляць польскія вайскоўцы з частак, размешчаных у казармах па вуліцы 3 Мая (цяперашняя Чырвонаармейская). Служылі там хлопцы з розных рэгіёнаў тагачаснай Польшчы, сярод іх трапляліся і зацятыя футбалісты.

Вядома, што ў 1923 годзе была заснавана каманда WKS (Wojskowy Klub Sportowy) Słonim, варыянт — WKS 79 PP Słonim (ВКС, Вайсковы спартыўны клуб 79-га пяхотнага палка). Яна ўдзельнічала ў рэгіянальным першынстве Віленскай акругі ў “клясе Б” (у “клясе А” гулялі лепшыя каманды рэгіёна, пераважна з Вільні і Гродна). Слонім у той час уваходзіў у склад Навагрудскага ваяводства, але ў ім не было створана акруговага футбольнага саюзу. Таму мясцовым камандам даводзілася гуляць у “чужой” Віленскай акрузе. У 1923-м разам са слонімцамі ў “клясе Б” гулялі шэсць каманд з Вільні, тры — з Гродна, па адной — з Ліды і Новай Вілейкі.

Відаць, у Слоніме яшчэ не было прыдатнага поля для гульні ў футбол. Падобная праблема існавала і ў значна большых гарадах Заходняй Беларусі. У 1923-м у 100-тысячным Беластоку было толькі адно поле, але кепскай якасці. Паколькі ў нашым горадзе першай камандай была вайсковая, то вайскоўцам давялося парупіцца пра футбольнае поле. З часам яно з’явілася ў раёне цяперашняй вуліцы Чарняхоўскага (на месцы цяперашняга стадыёна). Аднак матчы ў 1923 годзе, пра якія нам вядома, WKS Słonim праводзіў у гасцях.

6-7 траўня 1923 года слонімскі WKS гуляў у Беластоку з мясцовым клубам BOSO (камандай Białostockiej Ochotniczej Straży Ogniowej, Беластоцкай добраахвотнай пажарнай варты). У першым матчы была нічыя 3:3, у другім гаспадары выйгралі з лікам 2:1. Верагодна, гэта былі таварыскія паядынкі. У тым годзе BOSO стартаваў у беластоцкай падгрупе “клясы Б”. У Беластоку таксама не было акруговага футбольнага саюза (ён стварыўся толькі ў 1929-м), таму мясцовыя каманды ў тым сезоне далучыліся да Віленскай акругі.

На жаль, пакуль не ўдалося знайсці звестак пра летнія матчы WKS. 15 верасня 1923-га ў Вільні адбыліся два матчы ў першынстве Віленскай акругі “клясы Б”. 1 pp. Leg.(1 Pułk Piechoty Legionów Józefa Piłsudskiego, Першы пяхотны полк легіёнаў імя Язэпа Пілсудскага, месца дыслакацыі — Вільня) — Strzelec (каманда парамілітарнай арганізацыі “Związek Strzelecki” (Саюз стральцоў) — 3:1; W. K. S. Słonim — 5 pp. Leg.(5 Pułk Piechoty Legionów Józefa Piłsudskiego, Пяты пяхотны полк легіёнаў імя Язэпа Пілсудскага, месца дыслакацыі

— Вільня) — 3:0. Першы тайм скончыўся ўнічыю 0:0. У другім тайме слонімцы забілі тры галы і атрымалі заслужаную перамогу. У рэпартажы са згаданых гульняў чытаем: *"Абодва матчы досыць нецікавыя. Гульня нудная, тэмп слабы"*. Судзілі іх пан Ляшчынскі і прафесар Вэйсэнгоф. Падчас матчу з удзелам слонімцаў сутыкнуліся два гульцы, у выніку чаго *"нападаючы* WKS *слонімскага быў на руках вынесены з поля ў стане непрытомным"*.

23 верасня ў Вільні адбыўся матч мясцовай WKS II і WKS Słonim. Ён скончыўся перамогай гаспадароў поля — 3:2 (першы тайм — 2:2). Віленскі WKS-2 даўно перад гэтым не гуляў, таму слонімцы мелі добрыя шанцы на перамогу. Аднак віленскае вайсковае камандаванне ўзмацніла каманду некалькімі гульцамі з WKS-1 (гэта не было забаронена). У першым тайме гаспадары поля забілі два мячы (адзін — з пенальці). Слонімцы адказалі двума мячамі з пенальці. Гульня была роўная, але ў сярэдзіне другога тайма WKS-2 забіў трэці гол. Слонімцы пасля гэтага "апусцілі рукі", сілаў, каб адыграцца, ужо не было. *"Судзя, п[ан] Абрамовіч, да перапынку энергічны, пасля перапынку не заўважыў шматлікіх фалоў"*, — адзначыў прысутны на гульні журналіст.

30 верасня ў Гродне гулялі мясцовы WKS і WKS Słonim. Гаспадары поля выйгралі з лікам 2:0 (першы тайм — 1:0). У рэпартажы з таго матчу чытаем: *"Ужо з пачаткам гульні мясцовыя апанавалі поле і рэдка калі сыходзілі з паловы праціўніка"*. Судзіў тую гульню капітан Гофбаўэр. Варта адзначыць, што ў сезоне 1923 года права гуляць у "клясе А" Віленскай акругі заваяваў якраз WKS Гродна. У снежні таго года "Спартыўны тыднёвік" падводзіў вынікі першынства Віленскай акругі і адзначыў WKS Słonim, як адну з лепшых у "клясе Б", як "вельмі амбітную каманду", якая ў барацьбе за выхад у "клясу А" саступіла гродзенцам.

Вось так у свой першы год існавання слонімская вайсковая футбольная каманда пакінула пра сябе добрае ўражанне. На жаль, пакуль не маем яе фота, не ведаем прозвішчаў яе футбалістаў, але пошукі працягваюцца і "белыя плямы" будуць запаўняцца.

### Год 1924

У Віленскай акрузе ў "клясе А" ў 1924 годзе гулялі 3 каманды, у "клясе Б" — 7. Апошнія прадстаўлялі Вільню, Гродна, Беласток і Ліду. "Кляса С" была яшчэ на стадыі фармавання.

Цяжка сказаць, чаму слонімскі WKS у 1924-м не выступаў у першынстве. Дакладна вядома, што каманда існавала (але яе склад мог змяніцца). Магчыма, яна не мела фінансавання, што зрабіла паездкі ў Вільню, Гродна ці Беласток немагчымымі.

У пачатку жніўня вайсковая каманда правяла два матчы ў Слоніме. 2 жніўня WKS прымаў ŻKS (Яўрэйскі спартыўны клуб) з Беластока. Слонімцы выйгралі з лікам 1:0. На наступны дзень адбыўся матч-рэванш. WKS зноў перамог, на гэты раз з лікам 2:1. Адзначалася, што ў другім матчы госці гулялі някепска, "добра камбінавалі", але гэта іх ад паразы не ўратавала.

Кракаўскі "Спартыўны тыднёвік" пісаў, што 10 жніўня 1924 года прайшоў футбольны матч WKS (Słonim) — KS Albertyn. Вайскоўцы выйгралі з лікам 13:0. Выданне адзначала, што WKS быў "у слабым складзе", а альбярцінскі клуб "гуляў ніжэй усялякай крытыкі". У гэтай інфармацыі важная згадка пра існаванне футбольнай каманды і ў Альбярціне, які ў той



***Падчас футбольнага матчу. Малюнак з польскай газеты 1924 года.***

час у межы Слоніма не ўваходзіў.

Дзіўна, але WKS не ўдзельнічаў і ў розыгрышы першынства Слоніма (магчыма, што гэта было першае такое спаборніцтва ў гісторыі нашага горада). Магчыма, з-за таго, што ў складзе каманды было мала ці не ўвогуле не было ўраджэнцаў Слонімшчыны? 4 кастрычніка 1924 года гулялі дзве каманды — Slon. TS.(STS) і Gimn. KS(GKS). Відаць, расшыфроўваць трэба наступным чынам: Слонімскае спартыўнае таварыства і Гімнастычны спартыўны клуб. STS выйграў з разгромным лікам 6:0 (першы тайм — 2:0). У кароткай справаздачы з гульні адзначалася, што GKS гуляў больш тэхнічна, а STS — больш эфектыўна. Відаць, ніякага прызу не было. Гэта сведчыць пра кволасць тагачаснага футбола ў Слоніме, ён толькі рабіў першыя крокі. У тых жа Баранавічах у 1924-м чэмпіянат горада арганізаваў мясцовы камітэт LOPP (Лігі паветранай і супрацьгазавай абароны) і для пераможцы была ўзнагарода. Але калі ў Баранавічах футбольныя справы былі лепш арганізаваныя, дык добрых гульцоў не хапала. Летам 1924 года брэсцкі WKS запрасіў WKS баранавіцкі на таварыскі матч. Апошнія выйгралі яго з лікам 3:2. У справаздачы адзначалася, што ў шэрагах баранавіцкай каманды былі *"некалькі гульцоў са Слоніма, пры дапамозе якіх здабылі перамогу"*.

**●*Сяргей Ёрш***

*Працяг у наступных нумарах*

# Студэнцкі ліст Алега Лойкі 1949 года

Доктар філалагічных навук, прафесар, член-карэспандэнт Нацыянальнай Акадэміі Навук Беларусі, пісьменнік, перакладчык, літаратуразнавец Алег Лойка (1931 — 2008) нарадзіўся ў Слоніме. Тут прайшло яго маленства, тут ён і дажываў свае апошнія гады ў доме на Віленскай вуліцы.

Восенню 1948 года Алег Лойка паступіў на філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Гэта былі пасляваенныя нялпростыя гады. Але і час самага шырокага наплыву ў інстытуты Мінска моладзі з былой Заходняй Беларусі. Менавіта студэнцкія гады, інтэрнат упершыню прымусілі юнака з заходнебеларускага горада Слоніма сур'ёзна задумацца над жыццём, над стаўленнем да чалавека, да свайго часу.

Алег Лойка пачаў пісаць вершы са школы. Першыя паэтычныя творы з'явіліся ў 1943 годзе ў "Баранавіцкай газеце". Спрабаваў ён іх пісаць і ў студэнцкія гады, але без вялікага поспеху. Сяды-тады заходзіў пачатковец у рэдакцыі газет і часопісаў. І хоць не друкаваўся, але непрыкметна набіраўся пэўнага вопыту, дзякуючы перш за ўсё шчырым, клапатлівым адносінам літаратараў Міколы Аўрамчыка і Сяргея Дзяргая. А ў 1959 годзе слонімец выдае свой першы паэтычны зборнік "На юначым шляху".

Родная сястра Алега Лойка Людміла Антонаўна Клімовіч, якая жыве ў Слоніме на Зялёнай вуліцы, пазнаёміла мяне з адным з першых студэнцкіх лістоў Алега Лойкі, які датаваны 27 лютага 1949 года. Юнак толькі тры тыдні адвучыўся ў Мінску і напісаў бацькам у Слонім свой першы ліст. Давайце яго пачытаем. Ён пачынаецца з верша:




***Канверт з выразанай маркай ад студэнта Алега Лойкі, 1949 г.***

Добры дзень, каханыя,
Хата пажаданая,
Хлеўчыкі, садок —
Ўсё! Нат халадок,
Што царыць ля печкі
І не грэе плечкі
Ні маме, ні Люсі
І сягоння мусіць!
Жыў, здароў, і Вам чаго
Арганізм жадае мой,
Ўсім прыветы да таго
Я кладу сюды ў пісьмо,
Плюс шчэ пацалункі
Шлю пісьма я клункам
Вам усім, каханыя!
Далей прозаю пішу,
Бо сказаць кой-што спяшу,
А іменна…

Далей юнак са Слоніма апісвае сваё студэнцкае жыццё, як ён кажа, прозаю. А піша ён з гумарам, быў, відаць, у добрым настроі. Вось што піша Алег Лойка:

"Тры тыдні прайшлі, як я тут. Ніякіх цяжкасцяў няма. Усё — норма. Стыпендыю — ура! — атрымаў! І… павышаную. Вылічылі за інтэрнат 90 руб. і яшчэ там на нейкія дробязі і на рукі атрымаў 257 руб. Так што грашыма забяспечаны да новай стыпендыі. Сёння ў мяне на руках 200 руб. з капейкамі, за тое забяспечыў сябе ўсім неабходным і купіў аўтаручку, ножык, шчотку, гуталін да ботаў, шнуркі, сшыткаў, паштовак… Ну і яшчэ тое-сёе, успамінаю. Хлеб купляў, купляў лапшу, варыў. Сёння, як яго…кхкхкх… не магу ўспомніць… ну… гэтага… а! Балерона — наканец успомніў — прыкончыў: засталіся рожкі ды ножкі! Цыбуля, як гэта кажуць, канула ў ваду, але не ў ваду. А ў нешта больш паважнае, благачасцівае, вазвышанае — у гэтае, значыць, маё, так сказаць, хайло, а па-медыцынску — поласць рота, глотка, стрававец, кішэчнік, дванаццаціперсную… баюся пералічваць, бо яшчэ дабяруся… кропка!(А паставіў клічнік — от махляр!) І так, капут балерррон (а смачны быў, ей Богу, капут і цыбуля). І сала ўжо мала. Хопіць да канца гэтага тыдня. На пасылку не спадзяюся. Думаю, сам глянуць праз тыдзень-другі дахаты за падсілкаваннем. Мама! Вы мне прыгатуйце альбо кг масла, альбо шмальцу. Больш не трэба. Апошняе — здагадаецеся і ведаеце лепш самі мяне. Мука ў мяне яшчэ ёсць — палавіна ўзятай. Зубы свае балючыя я вылечыў, ляжаць "пробныя" пломбы, на днях угняздзяцца і сапраўдныя. Штаны ў мяне — красата, любата, захапленне, і канты яшчэ трымаюцца, во! Што ж яшчэ! Ну, сёння я дзяжурны ў паколі, і парадак добранькі. Наогул, усё ідзе добранька. Вам жадаю і, кахаючым Вас, застаюся — Алег.

Шлю табе, Люсёнак (маецца на ўвазе сястра Алега Лойкі Людміла. — СЧ), паштоўку. Напішы. Ці спадабалася і яшчэ што-небудзь. Прывет! Прывет! Прывет! Пацалункі! Лёлек-студэнт".

Вось такі быў першы ліст студэнта Алега Лойкі з Мінска ў Слонім да бацькоў. Ён вельмі добра адлюстроўвае той пасляваенны час, калі некаму пашанцавала быць студэнтамі.

●*Сяргей Чыгрын*

# “Якімавіцкая справа” і кніга “Памяць”

“СК” неаднаразова пісаў на тэму “Якімавіцкай справы”.* Падчас нямецкай акупацыі 1941-1944 гадоў у вёсцы Якімавічы Слонімскага раёна асобнымі партызанамі і камандзірамі савецкага атрада імя Панамарэнкі былі забіты дзясяткі мірных жыхароў, у тым ліку і дзеці. У 1997 годзе пра гэта з’явіліся першыя публікацыі**, на Слонімшчыне працаваў следчы дзяржбяспекі з Гродна, які зафіксаваў сведчанні людзей. Аднак крымінальная справа не была распачатая. У 2004 годзе ў Мінску выйшла кніга “Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Слонімскага раёна”. Якое ж было здзіўленне, калі ў ёй пабачыў спіс жыхароў Якімавічаў, забітых партызанамі.*** Аднак пра тое, што яны сталі ахвярамі “людзей з лесу”, не было напісана ні слова. Затое спіс быў змешчаны ў рубрыцы “Мірныя жыхары Слонімскага раёна — ахвяры фашысцкага тэрору”!

Укладальнікам кнігі і апошнім старшынёй раённай камісіі па стварэнні гісторыка-дакументальнай хронікі пазначаны Аляксандр Тарсуноў. Быў такі чыноўнік у Слоніме. Яшчэ за два гады да выхаду з друку кнігі “Памяць” ён апублікаваў заметку пра “Якімавіцкую справу”.**** З яе вынікае, што Тарсуноў займаўся “праверкай праўдзівасці” майго артыкула пра тое, што “падчас вайны партызаны атрада імя Панамарэнкі забівалі мірных жыхароў”. Ён ездзіў у вёскі, у тым ліку і ў Якімавічы, размаўляў з людзьмі. Згадвае ён чалавека па мянушцы “Шляхта”, які па-зверску закатаваў дзяўчыну, “нанёс ёй 22 раны”. “Шляхту” ён называе бандытам, але не згадвае, што ён быў партызанам атрада імя Панамарэнкі. Піша Тарсуноў і пра “асобных бандытаў”, якія ўчынялі злачынствы. З яго зацемкі вынікае, што не партызаны забівалі людзей, а нейкія бандыты. Кіруючыся такой логікай, у кнізе “Памяць” чыноўнік мусіў напісаць, што жыхары вёскі Якімавічы сталі ахвярамі “бандыцкага тэрору” (а не “фашысцкага”). Сумненняў няма, што згаданы спіс з’явіўся ў выданні пасля яго “праверкі”. Ды і зацемка падпісана Аляксандрам Тарсуновым, як намеснікам старшыні “камісіі па напісанні хроніка-дакументальнай кнігі “Памяць”. Ён, дарэчы, піша, што сказаў мне пра факты забойстваў мірных жыхароў, каб я пра іх напісаў матэрыял. А я, нібыта, адмовіўся, бо меў мэту “зганьбаваць” партызан! Па-першае, нічога такога ён мне не гаварыў, Тарсуноў відавочна фантазіруе. Па-другое, пра факты забойстваў, у тым ліку і пра “Шляхту”, ужо было напісана мной на старонках “Газеты Слонімскай”. І ў той публікацыі не прыхоўвалася прыналежнасць пэўных асобаў да атрада імя Панамарэнкі, як гэта зрабіў Тарсуноў. Можна дапусціць, што ён няўважліва прачытаў мой артыкул. Патрэцяе, мэты зганьбаваць партызан не было. Мэтай было аднавіць справядлівасць, бо не ўсе забойцы мірных жыхароў былі пакараны. У канцы 1990-х яшчэ быў жывы Васіль Струпавец, які выжыў пасля расстрэлу яго сям’і, стаў інвалідам, хацеў, каб была заведзена крымінальная справа, каб быў суд. Не над усімі партызанамі атрада імя Панамарэнкі, а над канкрэтнымі асобамі, якія стралялі ў яго і яго сям’ю, забілі яго маленькую сястру. Той жа Тарсуноў прызнае, што пасля пачутага пра тыя падзеі ад людзей ён не мог спаць па начах. Але навошта было ў кнізе “Памяць” рабіць забітых партызанамі (паводле Тарсунова, бандытамі) вяскоўцаў ахвярамі фашысцкага тэрору?! І як можна назваць гэтыя дзеянні чыноўніка?

Дарэчы, у спісе забітых жыхароў Якімавічаў, змешчаным у кнізе “Памяць”, у асобных выпадках ёсць больш поўная інфармацыя пра людзей, у іншых выпадках — памылковая. Напрыклад, чытаем радкі пра расстраляную 28 красавіка 1943 года сям’ю Васіля Струпаўца. Згадваюцца два Мікалаі. Але ў Струпаўца былі браты Мікалай і Міхаіл. Першы, сапраўды, нарадзіўся ў 1930 годзе, другі — у 1937-м. Яшчэ адзін брат, Аркадзь, не загінуў падчас расстрэлу, быў паранены, але пасля вайны падарваўся на міне. Маці Васіля Струпаўца нарадзілася ў 1910 годзе, а ў кнігу трапіў чамусьці 1911-ы. Хаця Тарсуноў мог проста схадзіць на якімавіцкія могілкі і спраўдзіць дату на помніку.

Не трэба думаць, што “Якімавіцкая справа” выключная. Насамрэч падобнае здаралася і ў іншых рэгіёнах Беларусі. За апошнія дзесяцігоддзі з’явіліся дзясяткі публікацый, у якіх прыводзяцца факты, як мірныя жыхары станавіліся ахвярамі савецкіх партызан. На жаль, нічога не было зроблена для іх расследавання. Гэта адна з прычын таго, што здараюцца такія сітуацыі, калі ахвяр партызан запісваюць у лік ахвяр нацысцкіх акупантаў.

●***Сяргей Ёрш***

**Ёрш С. Расстрэл у Якімавічах “начальніка смерці” // Слонімскі край, 2017, № 7. Ліпень. С. 1,6-7; Ёрш С. Начальніка штабу савецкага партызанскага атрада лавілі ў лясах пасля вайны // Слонімскі край, 2017, № 8. Жнівень. С. 4-6.*

***Ёрш С. Што яны выраблялі! // Наша ніва, 1997, № 9-10, 10 сакавіка; Ёрш С. Што яны выраблялі! // Газета Слонімская, 1997, № 9, 1-7 жніўня.*

****Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Слонімскага раёна. — Мінск: БЕЛТА, 2004. С. 417.*

*****Тарсунов А. Пусть узнают партизаны // Газета Слонімская, 2002, № 23, 6-12 чэрвеня. С. 12.*

Нстр. шт. „Пономаренко"

Сов.секретно.

# ПРИКАЗ №017.

10

По Слонимскому Межрайцентру Партизанского Движения.

14 января 1944 г. Н-ский лес.

Несмотря на то что существует ряд приказов и указаний на то что чтобы партизаны не употребляли спиртных напитков и без разрешения командования отрядов брать от населения разные вещи, однако партизан Вербицкий Владимир не учитывая приказов и указаний совершил следующие преступления:

1. Дня 24 декабря 1943 г. на хуторах в Гуменниках у гражд. Соловья Павла без разрешения командования взял швейную машину которую после отвез к своей сестре в дерев. Окунинова.
2. Дня 29 декабря 1943 г. также без разрешения командования отряда будучи в дерев. Серках у гражд. Семенюка Филипа взял женский полушубок у жены Семенюка, при том ненес ей удар стволом винтовки под глаз.
   В том-же помещении взял у гржд. Сахоня Павла 2 полушубки, 4-е овчинки и суконные брюки кроме того этого-же дня нанес удар прикладом гржд. Семенюку Д.
   Все вещи взятые в Серках привез в дерев. Окуниново к своей сестре на временное сохранение, но после того был в Окунинове у своей сестры и вещей в отряд не привез.
3. Дня 1-го января 1944 г. Вербицкий попросившись у командира разведки выехать в дерев. Окуниново сменить белье, на что разрешение получил но с предупреждением о непитии водки. Однако Вербицкий вместо Окунинова поехал на хутор Ветеневка где напился и пьяный избил двух крестьян требуя водки а также нанес удар рукояткой нагана грзд. Титковой Лидии по голове, кроме этого будучи в Окунинове пугал расстрелом грзд. Буту Алексея.

Все вышеизложенные факты преступления Вербицкого подтвердились показаниями свидетелей, а поэтому Вербицкий подлежит за все его преступления высшей мере наказания - р а с с т р е л у !

По учитывая и принимая во внимание что у Вербицкого расстреляно немцами все семейство, а сам Вербицкий старый партизан и принимал участие в нескольких боях высшую меру наказания р а с с т р е л - отложить и дать возможность Вербицкому оправдать себя на деле.

Но в случае повторения, подобных вышеуказанным фактов преступления приговор будет немедленно приведен в исполнение.

УПОЛНОМОЧЕННЫЙ ЦЕНТР.ШТАБОМ ПАРТИЗАНСКОГО ДВИЖЕНИЯ и ЦК.КП./б/Б. ПО СЛОНИМСКОМУ МЕЖРАЙЦЕНТРУ /подпись/ /А Л Е К С Е Й/

НАЧАЛЬНИК ВОЕННО-ОПЕРАТИВНОГО ОТДЕЛА СЛОНИМСКОГО МЕЖРАЙЦЕНТРА /подпись/ /Д У Д А Р Ь/

Проработать совместно партизанами и командирами.

Дударь

*Дакумент са збораў Нацыянальнага архіву Рэспублікі Беларусь. Друкуецца ўпершыню.*

# Падарожжа ў мінулае

Восенню 2017 года Сімон Левінгер з ЗША прывёз у Слонім кінахроніку, знятую ў нашым горадзе ў 1929 годзе. Можна з упэўненасцю казаць, што для слонімцаў гэта падзея года! Многія паглядзелі відэа, працягласць якога складае амаль 15 хвілін, таму пераказваць яго змест няма сэнсу. Спынімся толькі на некалькіх эпізодах.

Але спачатку нагадаем, што аўтарам кінахронікі з'яўляецца слонімец Саламон Шэнберг-Левадзі. Яшчэ юнаком перад Першай сусветнай вайной ён з'ехаў за мяжу, дабраўся да ЗША, дзе працаваў дантыстам. У 1929 годзе нарэшце Саламону ўдалося прыехаць у родны горад, дзе жылі яго бацькі. Адчуваючы, што больш ён не вернецца сюды, Шэнберг-Левадзі фіксаваў на кінакамеру не толькі сваіх бацькоў, але і сам горад, яго вуліцы, людзей. Такім чынам ён зрабіў магчымым для цяперашніх слонімцаў падарожжа ў мінулае.

На кінахроніцы можна пабачыць панараму Слоніма, знятую з узгоркаў на захадзе горада. Гэта і Косаўскі тракт, які цяпер змяніўся да непазнавальнасці, Шасейная вуліца з рэдкімі дамамі. Вельмі каштоўныя кадры пачатку Скробаўскай вуліцы (цяперашняй Чырвонаармейскай, пры польскай уладзе — 3 Мая). Забудова яе не захавалася, не знойдзена пакуль і фотаздымкаў. Можна пабачыць, якая была агароджа на Малым канале Агінскага ў Слоніме. Таксама ёсць магчымасць разгледзець забудову каля галоўнай сінагогі, якая не трапіла на вядомыя нам здымкі. Практычна з усіх бакоў былі знятыя гандлёвыя рады на цяперашняй Першамайскай вуліцы.

Нават кепская якасць відэа дазваляе зазірнуць у розныя куткі нашага горада ў 1929 годзе і зрабіць не адно цікавае адкрыццё.

●*СЁ*



*Пачатак Скробаўскай вуліцы (цяпер — Чырвонаармейскай) з боку Гандлёвай плошчы (цяпер — пл. Леніна)*

*На гэтым здымку бачым будынак аптэкі ў пачатку Скробаўскай вуліцы, які толькі часткова трапіў у кінахроніку.*






*Вось так у 1929 годзе выглядаў Косаўскі тракт. Каля яго можна пабачыць узгоркі, якія былі зрэзаныя ў пасляваенны час.*

# Калі збудаваны храмы-крэпасці?

"СК" працягвае змяшчаць матэрыялы з архіву слонімскага краязнаўцы, археолага Васіля Супруна (1926 — 2007). У гэтым нумары прапануем вашай увазе артыкул, у якім асвятляецца гісторыя Сынковіцкага храма. У архіўнай папцы ёсць некалькі варыянтаў артыкула, напісаныя ў 1970-1980-я гады. Нярэдка тэксты Супруна прабіваліся да чытача нялёгка, пакутліва. Вось і гэты артыкул (6 аркушоў рукапісу, адзін з якіх — спасылкі) ён збіраўся апублікаваць у мінскім бюлетэні "Помнікі гісторыі і культуры БССР" (з канца 1980-х ён стаў часопісам "Спадчына"). Васіль Рыгоравіч даслаў яго ў снежні 1971 года: *"Пры гэтым высылаю кароткі артыкул аб Сынковіцкай царкве і здымкі. Пры магчымасці прашу апублікаваць". 4 лютага 1972-га літсупрацоўнік Рыгор Бярозкін піша ў Слонім:*

*"Паважаны Васіль Рыгоравіч!*

*Ваш артыкул пра Сынкавічы атрымалі. Вялікае дзякуй. Артыкул вельмі цікавы, добра напісаны, і надрукуем мы яго ў адным з бліжэйшых нумароў.*

*Просім паведаміць нам сваю спецыяльнасць і пасаду. Чакаем адказу".*

*На гэтым лісце ёсць прыпіска, зробленая рукой*






***Васіль Супрун, 2003г.***

*Васіля Рыгоравіча: "Матэрыял праляжаў у рэдакцыі больш 2 гадоў і быў забраны без публікацыі". Але тады ён адказаў на пытанне Бярозкіна і даслаў ліст у рэдакцыю:*

*"Шчыра паважаны тав. БЯРОЗКІН!*

*Дзякую за высокую ацэнку[,] даную артыкулу аб Сынковічах. І з задавальненнем адказваю на Ваша запытанне. Працую прарабам на Слонімскім хлебапрыёмным прадпрыемстве. Спецыяльнасць згодна пасады — будаўнік, хоць закончыў Мінскі педінстытут, гістарычны факультэт. З 1963 г. у вольны час займаюся археалагічнымі даследаваннямі згодна Адкрытых лістоў АН БССР.*

*Вельмі рад кантакту з рэдакцыяй бюлетэня, так жа, як і выхаду гэтага даўно чаканага выдання ў Беларусі.*

*З пашанай і самымі найлепшымі пажаданнямі*

*В. Супрун*

*Слонім. 19 лютага 1972 г.".*

Пакуль няма нават версіі, чаму ў бюлетэні не апублікавалі яго артыкул пра Сынковіцкую царкву. Тое ж Беларускае таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, якое выдавала бюлетэнь, у 1979 годзе выпусціла рускамоўны буклет "Цэрквы-крэпасці ў Сынковічах і Малым Мажэйкаве". І не скажаш, што пэўную ролю адыграла біяграфія слонімца, якога ў 1947 годзе рэпрэсавалі за беларускую патрыятычную дзейнасць. У 1972-м у бюлетэні быў апублікаваны артыкул Супруна на іншую тэму.* Друкаваўся ён і пазней.** У пачатку 1970-х пра Сынковіцкі храм В. Супрун апублікаваў артыкулы ў "Гродзенскай праўдзе"*** і ў "За перамогу камунізма".****

У архіўнай папцы, акрамя варыянтаў артыкула, ёсць шматлікія запісы, замалёўкі, зробленыя Супруном падчас даследавання храма. Яны паказваюць, як глыбока і старанна ён яго вывучаў, як яму хацелася разгадаць таямніцу яго пабудовы. А яшчэ Васіля Рыгоравіча вельмі турбаваў лёс царквы. 17 кастрычніка 1976 года ён зрабіў наступны запіс:

*"Толькі што быў у Сынковіцкім храме. Уражанне жахлівае: будынак адкрыты, вокны выбіты, падлога ўзламана. Наогул, помнік кінуты на знішчэнне дзецям і хуліганам. Аж страшна глядзець на такое варварства. А помнік адзіны ў рэспубліцы. Яшчэ дзесяць год такой "аховы" і застануцца руіны".*

На шчасце праз дзесяцігоддзе ўлады вярнулі Сынковіцкі храм вернікам і ён быў выратаваны ад знішчэння.

"СК" публікуе рэдакцыю артыкула, зробленую Васілём Супруном у пачатку 1982 года. У той час ён даслаў перароблены тэкст у бюлетэнь "Помнікі гісторыі і культуры БССР", але пакуль невядома, ці была публікацыя. Калі першыя варыянты артыкула мелі назву "Аб датаванні Сынковіцкага і Маламажэйкаўскага храмаў", дык апошні — "Калі збудава-

ны храмы-крэпасці?". Гэты тэкст, крыху перароблены і з праўкамі рэдактара, быў змешчаны ў кнізе "За смугою часу".***** "СК" ж друкуе арыгінальны аўтарскі варыянт.

Рэдакцыя ўдзячная нашаму чытачу Васілю Іванавічу Рубцу за прадастаўлены матэрыял.

***Сяргей Ёрш***

**Супрун В. Палац у Ружанах // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1972, № 3.*

***Супрун В. Гарадзішчы каля Слоніма // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1976, № 4.*

****Супрун В. Храм в Сынковичах // Гродзенская праўда, 1971, № 155, 7 жніўня.*

*****Супрун В. Старажытны храм // За перамогу камунізма, 1974, № 119, 3 кастрычніка.*

******Супрун В. За смугою часу. — Мінск: Полымя, 1994. С. 130-138.*

На апаленай частымі войнамі зямлі беларускай архітэктурныя помнікі з пяцівекавой гісторыяй — рэдкасць. Вельмі ўжо многа ліхалецццяў пранеслася за гэты час над краем. Але насуперак усяму, больш пяці стагоддзяў стаяць на Гродзеншчыне так званыя храмы-крэпасці. Іх два: адзін велічна ўзвышаецца на граніцы Зельвенскага і Слонімскага раёнаў, побач з вёскай Сынковічы, другі — на граніцы Шчучынскага і Лідскага раёнаў недалёка ад вёскі Малое Мажэйкава.

Гэта падобныя адна на другую мураваныя праваслаўныя цэрквы з магутнымі сценамі, вуглавымі абарончымі вежамі і вінтавымі лесвіцамі ўнутры іх, складанай сістэмай байніц, высокай страхой і франтонамі, упрыгожанымі дэкаратыўнымі нішамі.

Па форме храмы нагадваюць невялікія сярэдневяковыя замкі, толькі без слядоў іншых умацаванняў, нават земляных



***Сынковіцкі храм. Фота Васіля Супруна, 1970-я.***

валоў і равоў, што сведчыць аб сімвалічным, а не абарончым іх прызначэнні. Аб гэтым гаворыць і навакольны рэльеф, зусім не ствараючы зручнасцяў абароны. І наўрад ці ўжо ў XV-XVI стагоддзях асобныя збудаванні падобнага тыпу, аддаленыя ад гарадоў і значных населеных пунктаў, маглі паасобку процістаяць тагачасным сродкам бою.

Тым не менш, храмы па невядомай прычыне былі збудаваны і вось ужо некалькі стагоддзяў прыцягваюць увагу даследчыкаў, хоць грунтоўна не вывучаліся і да нашага часу (да 1982 года, калі пісаўся артыкул — СЁ).

Згодна даных некаторых старажытных крыніц і невялікіх даведак-публікацый, збудаваны абодва помнікі ў адзін час — у 1407 годзе.[1] Маламажэйкаўскі храм меў нават дакладную дату: 10 траўня 1407 года.[2] З гэтай нагоды ў траўні 1907 г. у [Маламажэйкаўскай] царкве шырока адзначаўся 500-гадовы юбілей. Гэта, відавочна, і падштурхнула ярага непрыяцеля беларускай культуры Юзэфа Ёдкоўскага (у большасці публікацый выкарыстоўваецца варыянт прозвішча — Ядкоўскі — СЁ) на знаёмства з помнікамі і пісьмовымі матэрыяламі пра іх. Ю. Ёдкоўскі, бадай, першым павярхоўна даследаваў Маламажэйкаўскую і Сынковіцкую цэрквы, архівы пры іх, Гродзенскі кансісторскі архіў і дакументы, звязаныя з радаслоўнымі мясцовых памешчыкаў.

Вынікам гэтай работы з'явіўся апублікаваны ў 1915 годзе яго артыкул "Цэрквы, прыстасаваныя да абароны ў Літве і Літоўскай Русі"[3], у якой акрамя апісання помнікаў, некаторых гістарычных даведак, ставілася мэта звязаць будаўніцтва храмаў з мясцовым памешчыкамі, а ў сувязі з гэтым і перанесці на цэлае стагоддзе іх датаванне.

Нягледзячы на шэраг яўна суб'ектыўных высноў і тэндэнцыйна падабраныя сведчанні, значная па аб'ёме і фактычным матэрыяле публікацыя была ўспрынята даследчыкамі без належнага крытычнага аналізу. Спрыялі гэтаму тагачасныя гістарычныя ўмовы, адсутнасць неабходных архіўных матэрыялаў і прыймальная для таго часу ідэалагічная (прапамешчыцкая) аснова высноў. Да таго ж, як адзначалася, аб'екты гэтыя ў навуковай літаратуры былі мала вядомыя і прыведзеныя Ю. Ёдкоўскім матэрыялы прадстаўлялі немалую цікавасць.

З выхадам у свет адзначанай публікацыі, існуючыя традыцыі ў датаванні і трактоўцы помнікаў былі грунтоўна парушаны. Мэта, пастаўленая Ю. Ёдкоўскім, была дасягнута. Храмы пачалі датавацца XVI стагоддзем.

На жаль, і да апошняга часу ў даследаванні помнікаў зроблена не вельмі многа. Большасць гісторыкаў беларускай архітэктуры даверліва згаджаецца з асноўнымі высновамі Ю. Ёдкоўскага, лічаць яго даследаванні найбольш грунтоўнымі.

Фактычна не высветленай застаецца не толькі час будаўніцтва храмаў, але і сама

ідэя стварэння іх у такой глушы. Не зразумела, што паслужыла прычынай і каму пасільна было такое будаўніцтва. Чаму абодвум гэтым праваслаўным цэрквам, узведзеным прыблізна ў адзін час была дадзена такая форма, не толькі не ўласцівая, але і не зразумелая для праваслаўных сялян наваколля.

Як вядома, датаванне і прызначэнне помніка — гэта аснова яго навуковай характарыстыкі. Памылковае датаванне і тлумачэнне вядзе да дэпашпартызацыі і, нарэшце, фальсіфікацыі помніка.

Для гісторыі і беларускай архітэктуры храмы-крэпасці Гродзеншчыны — вехі нямалаважныя і дэпашпартызацыя іх проста недаравальна.

Зыходзячы з гэтых пазіцый, аўтар гэтага артыкула лічыць мэтазгодным хоць павярхоўна прааналізаваць аргументацыю і высновы Ю. Ёдкоўскага ў датаванні і, наогул, трактоўцы помнікаў. Каб неяк зразумець, чаму яны так значна разышліся з ранейшымі данымі і чаму ўсё ж не даюць пераканаўчых адказаў на цэлы шэраг пытанняў. Тым больш насцярожыла характарыстыка, даная даследчыку вучонымі Р. Якімовічам і Н. Вароніным.[4]

Павярхоўнаму аналізу публікацыі Ю. Ёдкоўскага "Цэрквы, прыстасаваныя да абароны ў Літве і Літоўскай Русі" папярэднічала археалагічная разведка аўтара ў ваколіцах Сынковіч, даследаванне самога помніка і знаёмства з гістарычнымі матэрыяламі. Перагледжаны і іншыя публікацыі Ю. Ёдкоўскага па гісторыі Прынёманскага краю.

Як і іншыя даследчыкі мінулага, Ю. Ёдкоўскі лічыў, што мураваныя культавыя збудаванні, падобныя Сынковіцкай і Маламажэйкаўскай цэрквам,



***Сынковіцкі храм. Фота Васіля Супруна, 1970-я.***

маглі быць узведзены ў сельскай мясцовасці толькі мясцовымі памешчыкамі. Гэта загадзя акрэсліла змест і кірунак яго даследаванняў, служыла асновай для пошукаў і высноў.

"Многія даследчыкі, якіх цікавіла мінулае Сынковіцкай царквы, спрабавалі даведацца, каму ў XV-XVI стст. належаў маёнтак Сынковічы, уладальнікам якога быў узведзены гэты храм-замак, — пісаў Ю. Ёдкоўскі. — Пошукі дакументаў былі, відавочна, дарэмны".

І, нібы, трыумфуючы ад уласнай удачы, працягваў: "У актах Літоўскай Метрыкі маецца вельмі цікавы дакумент 1576 годзе, які датычыць Сынковіч, менавіта: *"Привилей Пану Ивану Есману на торг в ден недельный в ыменью его Сынковичах"*. "Гэта грамата караля Стэфана Баторыя, — пісаў ён далей, — якой дазваляюцца кірмашы ў нядзелю і корчмы ў Сынковічах, пазбаўленыя збораў у карысць казны. Устанаўліваць кірмашы ў вёсцы, дзе няма царквы, было б недарэчна, таму лічым існаванне Сынковіцкай царквы ў 1576 годзе бясспрэчным. Грамата была дана Есьманам, верагодна, праз некалькі гадоў пасля заканчэння працяглага будаўніцтва ў Сынковічах царквы".[5]

Іншых пісьмовых дакументаў Ю. Ёдкоўскі не прыводзіў. У архіве Сынковіцкай царквы самымі старажытнымі на той час аказаліся "Генеральная візіта" з 1720 года, метрычны запіс з 1762 г. і апісанне царквы, зробленае ў 1746 г. кобрынскім ігумнам Андрэем Бянецкім.

Для падмацавання патрэбных высноў Ю. Ёдкоўскі выкарыстаў параўнанні асобных архітэктурных дэталяў Сынковіцкага храма з падобнымі аналагамі — Віленскай Троіцкай царквой, Мірскім замкам, будаўніцтва якіх было скончана ў пачатку XVI стагоддзя. На аснове гэтага ён пісаў: "Такім чынам, пазнаёміўшыся з сабранымі намі параўнаўчымі матэрыяламі, мы можам з упэўненасцю зазначыць, што Сынковіцкая царква пабудавана ніяк не раней пачатку XVI стагоддзя. Прыведзеная намі грамата Стэфана Баторыя ад 1576 года на нядзельныя кірмашы дана была Івану Есьману бясспрэчна ўжо пасля будаўніцтва ў Сынковічах царквы".[6]

Такая адносна малапераканаўчая аргументацыя лягла ў аснову высноў Ю. Ёдкоўскага аб тым, што Сынковіцкая царква пабудавана выхадцам з татар мясцовым памешчыкам Іванам Есьманам у першай палове XVI ст, а не ў 1407 г., і што будавалася яна вельмі доўга, можа нават да 60-х гадоў XVI стагоддзя.

Трэба адзначыць, што Ю. Ёдкоўскі ведаў і пра існаванне касцёлаў у Ішкалдзі і Сапежышках, збудаваных у XV стагоддзі. І ведаў, што яны значна больш падобны да Сынковіцкай і Мадамажэйкаўскай цэркваў, чым Троіцкая царква ў Вільні. Але Ю. Ёдкоўскаму для параўнання патрэбны былі толькі аб'екты XVI ст., прыбліжаныя да жыцця памешчыка Івана Есьмана.

Не мог не ведаючь Ю. Ёдкоўскі і аб тым, што асобныя архітэктурныя формы,

дэталі, дэкаратыўныя асновы і тэхналагічныя прыёмы ў будаўнічай практыцы тых часоў існавалі на працягу цэлых стагоддзяў і якраз прыведзеныя ім прыклады зусім не былі вызначальнымі і датуючымі. Яны ўжываліся з XV ст. да XVII ст. Маецца на ўвазе форма франтона, скляпенні, дэкаратыўны выступ на фасадзе.

Супярэчыць неабгрунтаваным высновам Ю. Ёдкоўскага і паведамленне, прыведзенае ім у адной са зносак публікацыі, якая аналізуецца. Там гаворыцца, што "а. Е. Міхайлоўскі на адным з малых званоў [Сынковіцкай царквы] знайшоў надпіс: "ANNO DOMINI 1460".[7] Званы ж звычайна замаўляліся і адліваліся пасля будаўніцтва храмаў, а не за сто гадоў да гэтага.

Не нашмат больш аргументаваны і высновы пра будаўніцтва Маламажэйкаўскага храма мясцовым памешчыкам Шымком Мацкевічам у першай палове XVI стагоддзя.

Ю. Ёдкоўскі пісаў: "Час заснавання царквы да гэтага часу быў вядомы з дакумента 1648 года у якім гаворыцца, што "Отец Феодосий Воротынский, протопоп Лидский, до книг метрополитальных… в Новогрудку будучи, покладал и ку актыкованью подал лист органичный церкви Мало-Можейковской Мурованой грунтов, лесов, сеножатей, самого седлиска и прочих принадлежностей, сходно стародавнего фундушу, учиненнаго чрез зошлого его милости пана Шимка Мацкевича Шкленскаго, подконюшаго Виленского, державцы Ушпольскаго, Пенянского, и Радунскаго, наданых и належачих на тую ж церковь Мурованую в повете Лидском лежащую и им побудованую, року 1407 Мая 10 дня".[8]

Далей Ю. Ёдкоўскі пісаў: "Між тым, у архіве той самай царквы захаваўся другі дакумент ад 1542 года, у якім гаворыцца наступнае: "Я Шимко Мацкевич, Подконюший Виленский, Державца Ушпольский, Пенянский и Радунский, Ознаймую всим посполите теперешным и на потом будучым, кому бы то ведати належало, им надаю на церковь Божю мурованую в повете Лидском лежачую, Можейковскую з Именя мого дворного Можейкова Великого с пашни своей дворной от жита, ячменя и пшеницы десятую копу записываю теж (з будынком) з полем з сеножатью, которое поле на пять бочок и тож поле Нечуйковщизна, которое поле на тры бочки. Который колвек у тое церкви священник будет, повинен будет за мое здорове и за моих прырожоных в четвер молебен светому Миколе пети, а в суботу службу Божью за родителей и за прырожоных год от году за упокой службу Божью и панихиду пети ни в чым не выступуючи з стого постановеня моего, а священник, который коли колвек будет на тые дни ладан и просфиры а по смерти моей жона моя и дети мое тое если их мети буду так теж и близные мое и хтоз кольвек в прыйдущий век тое имене мое Можейков Великий в повете Лидском лежачое держати будет с того постоновеня моего ни в чом не выступуючы мают во светию десятину до тое церкви дават, так теж жона и дети мое мают дати чоловека, службу на име Андрейца Васильевича и з детьми его в туюж церковь выж речоную. А хто бы порушыл той мой запис што я записал ку Пречистой Божой Матце, той со мною разсудится перед Богом. Писан в Можейкове. Лета от воплощеня Сына Божего тысеча петсот сорок второго двадцать осмого мсца мая".[9]

Прыведзеныя дакументы яўна супярэчаць адзін другому і гэта не мог не заўважыць Ю. Ёдкоўскі. Датаванае ахвяраваўчае завяшчанне мясцовага памешчыка Шымка Мацкевіча на дзесяціну ў карысць царквы сведчыць аб тым, што ў гэты час яна ўжо бязумоўна існавала, але дворнаю, памешчыцкаю не была. Таму і складзена завяшчанне, як ахвяраванне (плата) за малебен аб здароўі памешчыка і яго родных. Уласнай царкве за такую службу плаціць па завяшчанні было б недарэчна. У дакуменце, як бачым, няма і намёку на тое, што царкву збудаваў Мацкевіч, аб чым сцвярджае ў сваіх высновах Ю. Ёдкоўскі і акт Феадосія Варатынскага.

Калі б сапраўды храм быў збудаваны Мацкевічам, то ў яго завяшчанні гэта абавязкова знайшло б нейкае адлюстраванне, ды і не было б патрэбы ў самым завяшчанні.

●***Васіль Супрун***

*Заканчэнне ў наступным нумары.*

*[1] Вестник юго-западной и западной России. 1965, февраль. Отд. 4. С. 484; Литовские епархиальные ведомости, 1873, № 33. С. 297; Батюшков П. Белоруссия и Литва. — Санкт-Петербург, 1890. С. 110.*

*[2] Памятники русской старины в западных губерниях. 1872. Вып. VI. № 6.*

*[3] Иодковский И. Церкви, приспособленные к обороне в Литве и Литовской Руси // Древности (Москва), 1915. Т. VI. С. 249-300.*

*[4] Jakutowicz R. Prawda o Górze Zamkowej w Grodnie // Marchołt (Warszawa), 1938, Zesz. II. S. 196-214; Воронин Н. Дрквнее Гродно // Материалы и исследования по археологии СССР (Москва), 1954, № 41. С. 12, 19.*

*[5] Церкви, приспособленные к обороне в Литве и Литовской Руси… С. 292.*

*[6] Тамсама. С. 300.*

*[7] Тамсама. С. 296.*

*[8] Тамсама. С. 271-272.*

*[9] Тамсама. С. 272-273.*

НЕЗАБЫЎНАЕ

# Бежанства — трагічная старонка нашай гісторыі

*Працяг, пачатак у № 6-9, 2017 г.*



***Фота: bn.org.pl***

**Бежанцы Слонімскага павета ў Томскай губерні (1915-1916 гады)**

148. **Макаль Сям. Сям.**, 55 гадоў, жонка Соф., 43 гады, дзеці: Ст, 17 гадоў, Ан, 15 гадоў, Юл., 13 гадоў, Ос., 6 гадоў, Над., 4 гады, Мар.,1 год, брат Ос., 38 гадоў. Усе прыехалі з Галынкаўскай воласці, вёскі Вялікія Азёры. Часова спыніліся ў Томскім павеце, вёсцы Крывазначы.

149. **Макаль Сям. Якаўлевіч,** 26 гадоў, маці Варвара, 58 гадоў. ПрыехалізГалынкаўскайволасці. Часова спыніліся ў Барнауле.

150. **Макаль Піліп**, з ім 1 мужчына і 2 жанчыны. Прыехалі з Галынкаўскай воласці. Часова спыніліся ў Барнауле.

151. **Макаль Піліп Барысавіч**, 84 гады, жонка Пр., 65 гадоў. Прыехалі з Галынкаўскай воласці, вёскі Крушняны. Часова спыніліся ў Барнауле.

152. **Макаль Ан. Як.**, 40 гадоў, дзеці: Алена, 22 гады, Кастусь, 20 гадоў, Ан., 14 гадоў. Прыехалі з Галынкаўскай воласці, вёскі Крушняны. Часова спыніліся ў Барнауле.

153. **Макарэвіч Іван Гіляравіч** з жонкай. Прыехалі са Слонімскага павета. Часова спыніліся ў Тутальскім павеце, вёсцы Лябяжжа.

154. **Мандрыкевіч Алс. Фёд.**, з ім 2 жаночыя асобы. Прыехалі з Чамяроўскай воласці. Часова спыніліся ў Томскім павеце, на станцыі Юрга.

155. **Мандрыкевіч Вера Усцінаўна**, з ёй прыехалі яшчэ 2 чалавекі. Прыехалі з Чамяроўскай воласці. Часова спыніліся ў Томскім павеце, вёсцы Усць-Іня.

156. **Мандрык Пётр Максімавіч,** 44 гады, жонка Мар., 40 гадоў, дзеці: Гр., 17 гадоў, Ал., 15 гадоў, Соф., 13 гадоў, Ліда, 9 гадоў, Фёкла, 6 гадоў. Прыехалі з вёскі Вострава Міжэвіцкай воласці. Часова спыніліся ў Томскім павеце, вёсцы Усць-Іня.

157. **Маркевіч А. П.** з 1 жаночай асобай. Прыехалі з вёскі Мяльканавічы. Часова спыніліся ў Ціхаміраўску.

158. **Маркевіч Алена Алс.,** з ёй 2 жанчыны. Прыехалі з вёскі Мяльканавічы. Часова спыніліся ў Ціхаміраўску.

159. **Маркевіч Алена В.**, 18 гадоў, сястра Марфа, 16 гадоў, Ан., 21 год. Прыехалі з Міжэвіцкай воласці. Часова спыніліся ў Томску, па адрасе — вуліца Паштамтская, 19.

160. **Маркевіч Ф. С.**, 65 гадоў, жонка Ф., 63 гады. Прыехалі з вёскі Рудаўка. Часова спыніліся ў Томскім павеце, вёсцы Зыранка.

161. **Мароз Ів.**, 49 гадоў, жонка Аг., 45 гадоў, дачка Жэня, 12 гадоў. Прыехалі з вёскі Асабнякі-Сакалова. Часова спыніліся ў горадзе Багатол.

162. **Маркевіч Іван Антонавіч**, 15 гадоў, маці яго Ліза, 32 гады, брат Мік., 9 гадоў, сястра Вольга 17 гадоў, сястра Соф., 13 гадоў. Прыехалі з вёскі Рудаўка. Часова спыніліся ў Томскім павеце, вёсцы Зыранка.

163. **Маркевіч Іл. Як.**, з ім 2 жанчыны і 2 мужчыны. Прыехалі з вёскі Рудаўка. Часова спыніліся ў горадзе Багатол.

164. **Маркевіч Кандрат,** 33 гады, жонка Кацярына, 29 гадоў, дзеці: Ів., 8 гадоў, Вера, 5 гадоў, Вас., 2 гады, брат Павел. Прыехалі з вёскі Рудаўка. Часова спыніліся ў Томскім павеце, вёсцы Баранава.

165. **Маркевіч Мікалай Мікалаевіч,** 44 гады, жонка Пр. Арт., 45 гадоў, дзеці: Ан., 7 гадоў, Алена, 4 гады. Прыехалі з вёскі Рудаўка. Часова спыніліся ў пасёлку Раз'езд-Кошкуль.

166. **Маркевіч Сяргей**, 33 гады, жонка У., 33 гады, дзеці: Таццяна, 10 гадоў, О., 7 гадоў, Кацярына, 2 гады. Прыехалі з вёскі Рудаўка. Часова спыніліся ў тайзе.

167. **Маркевіч Фёдар Максімавіч,** 65 гадоў, дзеці: Кацярына, 18 гадоў, Ан., 21 год, і яшчэ з імі 4 чалавекі. Прыехалі з вёскі Рудаўка. Часова спыніліся ў Томскім павеце, вёсцы Зыранка.

168. **Мільечыка Іван Лаўр.**, 29 гадоў, жонка Ганна, 25 гадоў, дзеці: Ул., 6 гадоў, Леў, 1 год. Прыехалі з вёскі Мяльканавічы. Часова спыніліся ў Томскім павеце, вёсцы Баранава.

169. **Мільечыка Лаўр. М.**, 64

гады, жонка Марыя Пятроўна, 54 гады, дзеці: Ант., 20 гадоў, Ан., 17 гадоў, Вера, 14 гадоў, П., 7 гадоў. Прыехалі з вёскі Мяльканавічы. Часова спыніліся ў Томскім павеце, вёсцы Баранава.

170. **Міхальчык Іс. Рыг.**, 56 гадоў, сын Мар., 28 гадоў, унукі: Мік., 6 гадоў, Мар., 3 гады, Алд., 1 год. Прыехалі з Жыровіцкай воласці. Часова спыніліся ў Марыінску.

171. **Мароз Іван Мікалаевіч**, 56 гадоў, жонка Кс., 50 гадоў, Міх., 27 гадоў. Прыехалі з вёскі Сценявічы. Часова спыніліся ў Марыінску.

172. **Мацяновіч Ів. Лук.**, з ім прыехалі 5 жанчын, 3 мужчын. Прыехалі з вёскі Варонічы. Часова спыніліся ў горадзе Багатол.

173. **Пікевіч Анастасія** з сям'ёй. Прыехала з вёскі Мыслава. Часова спынілася ў Ніжнім Нікалаеўску.

174. **Пакалава Алена,** 20 гадоў. Прыехала з вёскі Вострава. Часова спынілася ў Томскім павеце, вёсцы Усць-Іня.

175. **Пыцель Ан. Рыг.** Прыехаў з Шылавіцкай воласці, вёскі Добры Бор. Часова спыніўся ў Бійскім павеце.

176. **Пякарскі Міх. Фёд.**, 44 гады, жонка Ак., 43 гады, дзеці: Мар., 16 гадоў. Макс., 13 гадоў, Соф., 1 год. Прыехалі з вёскі Міжэвічы. Часова спыніліся ў Барнауле.

177. **Петручэня Фёдар Л.,** 43 гады, жонка Мар., 38 гадоў, дзеці: Мік., 14 гадоў, Сям., 9 гадоў, Ул., 5 гадоў, Вера, 7 гадоў. Прыехалі з вёскі Вялікая Кракотка. Часова спынілася ў Томскім павеце, вёсцы Усць-Іня.

178. **Наўроцкі Ас. Сяр**. Прыехаў з Шылавіцкай воласці. Часова спыніліся ў горадзе Багатол.

179. **Навумчык Сід. Макс.**, 66 гадоў, жонка Фёкла, 55 гадоў, дзеці: Алд., 20 гадоў, Мар., 13 гадоў. Прыехалі з вёскі Вялікая Кракотка. Часова спыніліся ў Томскім павеце, вёсцы Зыранка.

*Працяг у наступным нумары*

●*Публікацыя* ***Сяргея Чыгрына***.

## СЛОНІМСКІЯ КАРЭСПАНДЭНЦЫІ

# Як у 1927 годзе ў польскай паліцыі ў Слоніме катавалі жыхара вёскі Касцяні


Цана асобнага нумару 20 гр.

НОВАГОДНЯЯ ПРАЦА

АДНАДНЁЎКА

Вільня, Субота 31-га сьнежня 1927 г.

В[ёска] Касьцяні, Чамерскае гм[іны], Слонімшчына. У ноч з 6/VI на 7/VI недалёка в. Касьцяні быў вывешаны "чырвоны сьцяг". Пасьля гэтага 10/VI быў вобыск у жыхара вёскі Касьцяні А. Багданчука і Ціхана Мароза, ведама ж шукалі кампрамітуючага матар'ялу. Ня гледзячы на тое, што нічога на вобыску падстаўнага для арыштаваньня не знайшлі, аднак жа жыхары вёскі Касьцяні Аляксандар, Сяргей і Кастусь Багданчукі і Ціхан Мароз былі арыштаваны і адпраўлены да камэнды павятовай* у Слоніме, дзе былі да баданьня** пасаджаны ў арэшт.

11/VI у 5 гадзін вечара С. Багданчук быў пакліканы на баданьне да экспазытуры паліцыі палітычнай. І вось якое гэта было "баданьне". На некалькі запытаньняў у С. Багданчука, ці прызнае ён сябе віноўным у вывешваньні сьцяга, С. Багданчук, ведама ж, нічога ня ведаючы аб сьцягу, адказываў, што нічога аб гэтым ня ведае. Тагды "шпік", якога там называлі "Пухлікам", пачаў біць па твары і па галаве. Калі ж С. Багданчук стаў рашуча адмаўляцца ад усяго таго, да чаго яго прымушалі, не даючы ім ніякіх ложных паказаньняў, дык яны пачалі каваць яму рукі, прыгаварваючы: "хоць самы пасядзімо 15 лет у турме, а цябе закатуем і, калі здохнеш, завалачэм у Шчару і ўтопім".

Потым, палажыўшы скаванага на дзьве табурэткі, заткнуўшы рот анучаю, Пухлік і другі "шпік" пачалі ліць у нос воду, разьведзеную з воцатам, да тых пор, пакуль С. Багданчук ня страціў прытомнасьці. Гэткае "катаваньне" трывала праз усю ноч. Пад ранак "шпікі", убачыўшы, што яны ад свае "ахвяры" ніякіх ложных паказаньняў не даб'юцца, пачалі яго лячыць, даючы пад нос нюхаць нашатырнага сьпірту, нейкіх парашкоў для піцьця і г. д. Як відаць, гэтыя "цывілізованыя людзі" вучыліся ў мэдыцынскім факультэце, бо вельмі спрытна далі "ўкол", што і да гэтага часу С. Багданчук адчувае страшэнную боль у грудзёх.

13.VI пасьля збаданьня сьледчага ўсе арыштаваныя былі звольнены.*** Гэтая справа скіравана да пракурора. Няведама, што далей будзе, але, як кажа ў нас цяпер прыказка: пакуль суд ды дзела, а ты чухай сваё цела, дый аддавай грошы дактарам на лячэньне.

*Гаротны. Катаваньні ня спыняюцца // Новагодняя праца (Вільня), аднадзёнка, 1927, 31 снежня.*

**У павятовую польскую паліцыю. — Гэтая і наступныя заўвагі "СК".*

***Да даследавання.*

****Вызвалены.*

# Дакументы шэрагоўца слонімскай пажарнай варты

Восенню 2017-га на сайце ebay.de з’явіліся дакументы шэрагоўца добраахвотнай пажарнай варты г. Слоніма 1920-1921 гадоў. Першы з іх — гэта пасведчанне з фотаздымкам пажарнага, выдадзенае 10 ліпеня 1920 года, калі наш горад кантраляваўся польскімі ўладамі. Час быў ваенны, таму ў дакуменце асобна адзначаліся вызваленне ад прымусовых працаў і дазвол на праход па горадзе ў начныя гадзіны. На пасведчанні ёсць дзве пячаткі — пажарнай варты і паліцыі.

Другі дакумент — гэта выпіска з пратакола пасяджэння кіраўніцтва слонімскай добраахвотнай пажарнай варты ад 10 ліпеня 1920-га. У ёй ідзе гаворка пра пажарнага Якуба Зельвянскага, якога адзначылі срэбраным жэтонам з надпісам “За пільную службу”. Дакумент надрукаваны на афіцыйным бланку пажарнай варты і пазначаны 2 верасня 1921 года. На ім, дарэчы, ёсць якасны адбітак пячаткі.

Супадзенне датаў на абодвух дакументах (10 ліпеня 1920-га), адначасовае іх з’яўленне на інтэрнэт-аукцыёне наводзіць на думку, што пасведчанне належыць згаданаму Якубу Зельвянскаму. Цікава было б даведацца пра лёс гэтага чалавека.

●***Генадзь Гурскі***



Oddział Toporników

Tytuł Szeregowiec

Okaziciel niniejszego jest funkcjonarjuszem Straży Ogniowej w Słonimie.
**Wolny od robót przymusowych.**

Słonim, dn. 10 lipca 1920

Komendant Straży

Członkom Straży Ogniowej wyznaczonym przez Komendę Straży Ogniowej na dyżura (pogotowie) oraz członkom orkiestry strażackiej zezwala się na przejście po mieście w godzinach między 12 a 4 w nocy.

Komendant Policji powiatu Słonimskiego

Własnoręczny podpis



dnia [illegible] 1920.

Referent [illegible]



**Straż Ogniowa Ochotnicza**

m. SŁONIMA.

dnia 2 września 1921 r.

№ 164

WYCIAG

z protokułu posiedzenia Zarządu Straży Ogniowej Ochotniczej m. Słonima z dn. 10 lipca 1920 r. L 9.

„ Strażakowi JAKÓBOWI ZELWIAŃSKIEMU za odznaczanie się przy gaszeniu pożarów wydać żeton srebrny z napisem „Za pilną służbę“ z odpowiedniem zaświadczeniem.-

Prezes Zarządu

Komendant Straży

Sekretarz Zarządu

Straż Ogniowa Ochotnicza m. Słonim




“Слонімскі край” — гісторыка-краязнаўчае электроннае выданне. Выходзіць раз на месяц.

Заснаванае ў лютым 2016 года

Рэдактар нумару *Сяргей Чыгрын*.

Наш адрас: **slonimskikraj@gmail.com**